# Ніва

ISSN 0546—1966
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 25 (1519) ГОД XXX БЕЛАСТОК 23 ЧЭРВЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл




Фота Юзафа Рыбінскага.

## Зоська Верас
## Віленскія кірмашы

Калі пачалі арганізаваць у Вільні кірмашы на „Казюка" (4 сакавіка, на св. Казьмера), не ведаю. Хіба можна было б адшукаць у старых гарадскіх хроніках дакладную дату.

Ладзіліся яны на Лукішскім пляцы, сёння — плошча Леніна.

Гэта быў першы ў годзе кірмаш... Займаў увесь пляц ад канца да канца. Той бок, што ад Лукішскай турмы, займала некалькі радкоў фурманак з бліжэйшых і далейшых вёсак. Прывозілі пераважна вырабы з дрэва: бочкі — вялікія і малыя, цабэркі, карыты, начоўкі, рознай велічыні стольніцы, граблі, таўкачы... Нават не адна барана тут з'яўлялася... Далей ліпаўкі на мёд, дзіцячыя саначкі, ручкі да вілаў, лапатаў; таксама драўляныя лапаты да адграбання снегу. — Былі і вырабы з лазы, саломы...

Паміж тымі вазамі, на самым відавоку вазы са смаргонскімі абаранкамі. Смачныя гэта былі абаранкі... Адныя тоненькія, даволі вялікія, іншыя зусім маленькія, грубенькія... Адныя пасыпаныя макам, іншыя кменам... Усе румяныя, бліскучыя нанізаныя на тонкі шпагат — вянкамі. Людзі куплялі па аднаму, а то і па некалькі такіх вянкоў — вешалі сабе на шыю, на рукі.

Рэшту пляца, падзеленага на рады займалі будкі, як цяпер кажуць, кіёскі. Усе новенькія, або прынамсі свежа памаляваныя. Чаго ў іх не было! Былі звычайныя галантарэйныя тавары: гузікі, іголкі, грабяні, панчохі, гальштукі, карункі, касьнікі і г.д. Але большасць з адмысловымі кірмашовымі таварамі. Шмат будак было з ласункамі, асабліва пернікамі... Былі пернікі самыя звычайныя ў пачках, але большасць — пернікі-сувеніры. Найчасцей рознай велічыні — сэрцы... Адныя гладкія без узораў, іншыя аблітыя белым ці ружовым люкрам... То ізноў з узорамі з такога ж люкру: лісточкамі, кветачкамі, зорачкамі... Але самымі пажаданымі былі сэрцы даволі вялікія з напісанымі люкрам імёнамі...

Дзяцей і падросткаў прываблівалі будкі з цацкамі. Пры адных хоць кліентаў было не мала, даволі людна і цесна, але панаваў спакой, цішыня... Бо прадаваліся цацкі такія, як лялькі, конікі з вазкамі і без вазкоў, цэлюлёдавыя звяркі, птушкі: курачкі, качкі, гускі ды плюшавыя мядзведзі...

Пры іншых будках з цацкамі — музыка, піск, візг розных тонаў. Тут і дудкі, і вусныя гармонікі, гліняныя пеўнікі — свісцёлкі... Але найцікавейшыя гэта — „цёшчын язык" і „паміраючы чорцік". „Цёшчын язык" з выгляду быццам нічога цікавага: скручаная ў трубку папера... Але як дзьмухнуць у яе — яна хуценька раскручваецца ў даўгі-даўгі „язык" — чырвоны на канцы, прытым з пранізлівым візгам... Не менш цікавы „паміраючы чорцік". Возьмеш у рукі — кусочак тоненькай сплюшчанай празрыстай гумы... Надзьмеш праз маленькую дзірачку — робіцца круглая галава з парай рожкаў — галава чорціка. Надзьмеш мацней — чорцік трэсне з гукам і такім жаласлівым енкам...

(Працяг на стар. 4)

## З трэпарцёрскіх запісак

Стражакі. Так іх называюць у нашых вёсках, незалежна ад таго, якой беларускай гаворкай карыстаюцца жыхары дадзенай вёскі. Афіцыйна трэба было б сказаць, што гэта атрады супрацьпажарнай аховы. Ёсць прафесіянальныя і добраахвотныя. Добраахвотных стражакаў непараўнальна больш. Іх каманды здаўна зрасліся з воблікам кожнай буйнейшай вёскі. Памятаю, што нядаўна, напрыклад, у Трасцяніцы, мясцовая стража ўрачыста адзначала сваё пяцідзесяцігоддзе. У гэтым годзе, у маі, з нагоды Дня стражака Гайнаўская супрацьпажарная стража прыгадала жыхарам горада аб 60-ай гадавіне свайго існавання, аб чым крыху пазней.

## НАВАТ І Ў АГОНЬ

Саюз добраахвотнай супрацьпажарнай аховы ў Беластоцкім ваяводстве налічвае зараз больш-менш 10 тысяч членаў. Яны аб'яднаны ў звыш 480 камандах. Амаль палавіна гэтых каманд мае ў сваім распараджэнні баявыя пажарныя аўтамабілі з поўным сучасным абсталяваннем. Іх радыус дзейнасці даходзіць да 50 кіламетраў.

Дзейнасць добраахвотных каманд папаўняе 16 прафесіянальных пажарных атрадаў, у якіх служаць вопытныя спецыялісты ў барацьбе з агнявой стыхіяй.

Добра было б наглядаць за паводзінамі стражакаў толькі ў час іх парадных збораў і манёўраў. На жаль, так не заўсёды бывае. На працягу мінулага года ў межах Беластоцкага ваяводства здарылася дакладна 1044 пажары. Амаль 10 тысяч стражакоў прымала непасрэдны ўдзел у барацьбе з агнём. З дымам пайшла маёмасць вартасцю ў 168 мільёнаў злотых. А фактычна было яшчэ больш, бо гэтую суму прынялі да страхоўкі інспектары ПЗУ, якія не бяруць пад увагу ўсёй рухомай маёмасці, што заўсёды прападае ў агні. Не бяруць яны таксама да сваіх падлікаў затраты часу і здароўя ўласнікаў згарэўшай маёмасці.

Згарэла 406 рознага тыпу будынкаў. Падумайце толькі: 406

(Працяг на стар. 5)

# НА мяжы

## АБ ПРАМІНАННІ (ІІ)

У розныя перыяды свайго жыцця чалавек мае розныя меркі і крытэрыі прамінання. Калі чалавеку дванаццаць-пятнаццаць гадоў, яму здаецца, што час прамінае вельмі памалу і, калі б ведаў, як гэта зрабіць, дык абавязкова паскорыў бы бег часу. Хочацца яму, каб як мага хутчэй пачалі расці вусы, каб як мага хутчэй зраўняцца з дарослымі, каб як мага хутчэй магчы пачаць курыць, піць гарэлку, каб як мага хутчэй перастаць хадзіць у школу і г.д.

Поўнасцю даросламу чалавеку здаецца нешта зусім іншае. Здаецца яму, што час прамінае вельмі хутка, што кожны дзень прыносіць новыя маршчыны, што ўсё часцей чалавек хварэе, што многае з запланаванага не зроблена, бо не хапіла часу.

Адным словам, малады чалавек лічыць, што месяцы цягнуцца, як гады, а пажыламу гады пралятаюць, як месяцы. Зразумела, што гаворым тут толькі аб суб'ектыўным адчуванні, бо аб'ектыўна праміnанне ідзе з аднолькавай хуткасцю і для маладых і для старых.

Я асабіста ўспрымаю і ўсведамляю стрымгаловасць прамінання ў часе ўступных экзаменаў на ўніверсітэт. Для прыкладу, у мінулым годзе здавалі экзамен дзяўчаты і хлопцы, народжаныя ў 1966 годзе. І вось, калі гляджу на гэтых маладых людзей, агортвае мяне свайго роду жах. Проста цяжка паверыць, што чалавек, які нарадзіўся ў 1966 годзе, ужо поўнасцю дарослы. Я ж гэты 1966 год бачу як на далоні.

Задуменне, здзіўленне, ці абурэнне з прычыны бегу часу не з'яўляецца нашым вынаходствам. Думалі аб ім і не маглі з ім пагадзіцца людзі ад моманту свайго элементарнага разумовага развіцця. У старажытнай Грэцыі пісьменнік, Феогнід — чалавек пажылога ўзросту — пісаў паэтычныя лісты-элегіі да падапечнага маладога паэта Кірна, у якіх супрацьстаўляў сваю старасць маладосці Кірна. Супрацьстаўляў і абураўся на хуткае прамінанне часу, на тое, што многа чаго не паспеў зрабіць, што ўсё ярчэй бачыць перспектыву смерці. Калі сёння чытаем гэтыя скаргі Феогніда, дык яны здаюцца нам як бы і смешныя. Ужо многа стагоддзяў няма ні Феогніда, ні Кірна, ні многіх наступных генерацый пісьменнікаў, якія таксама бачылі прамінанне часу і таксама не маглі з ім пагадзіцца.

Ад бяды, якой ёсць прамінанне, чалавек прабуе так-сяк ратавацца. У чым заключаецца гэты ратунак? У спробах вытлумачыць сабе, што мы пастарэлі меней, чым нашы аднагодкі. Памятаю, як адна з нашых студэнтак-завочніц сказала мне аб сваіх сяброўках-аднакурсніцах. „Паглядзіце на іх і на мяне, яны ў параўнанні са мною выглядаюць як мае маці, хаця нам столькі сама гадоў!"

Шчаслівая! Знайшла зманлівы спосаб памаладзець. У сапраўднасці выглядала яна прыблізна так, як і яе сяброўкі. Такі, аднак, падыход да справы вынікае з таго простага і парадаксальнага факта, што змены, якія выклікае ў людзях прамінанне, заўважаем тым ярчэй, чым радзей бачым чалавека. Гледзячы на сябе і на блізкіх штодзённа, не заўважаем перамен, якія прыносіць час. Спатыкаючы людзей рэдка, бачым перамены як на далоні.

І таму, чалавеча, калі сустрэнеш даўно не бачанага знаёмага і ўбачыш у ім вялікія перамены, памятай, што пастарэў не толькі ён, але і ты.

**Алесь Барскі**





Фізіка-хімічная лабараторыя інстытута торфу. Фота Л. Македонскага.

# Весткі з Беларусі

# Беларускі торф

Шчодрым Эльдарада аказаліся для Беларусі 7055 даследаваных на яе тэрыторыі месцанараджэнняў... торфу. І гэта не пераўвелічэнне. Торф, як і калійныя солі — сапраўднае нацыянальнае багацце рэспублікі. Значнае павелічэнне за апошнія два дзесяцігоддзі ўраджайнасці зерневых, як сцвярджаюць аграрнікі, — гэта вынік шчодрай падкормкі палёў тарфянымі ўгнаеннямі. І цяпер каля палавіны ўсёй патрэбы палёў у арганічных угнаеннях пакрываецца іх коштам. Торфу абавязана сваім нараджэннем беларуская электраэнергетыка, якая развілася на першым этапе выключна на танным паліве. Цёпла ў дамах сяльчан і жыхароў малых гарадоў ад тарфяных брыкетаў. Нарэшце, сёння вучоныя навучыліся выдзяляць з торфу каля сотні рэчываў і злучэнняў, з якімі звязана будучыня хіміі, мікрабіялогіі, фармакалогіі і іншых галін.

І ўсё ж час бурнага наступлення на беларускія тарфянікі прайшоў. Так мяркуюць спецыялісты. Назапашанае прыродай за дзесяць тысячагоддзяў багацце не павінна знікнуць бясследна.

— Не па-гаспадарску было б зусім адмовіцца ад здабычы і выкарыстоўвання скарбаў, якія ў даслоўным сэнсе ляжаць на паверхні, — кажа дырэктар Інстытута торфу Акадэміі навук БССР, акадэмік АН БССР Іван Ліштван. — Але іменна гэта асаблівасць тарфяных месцанараджэнняў прыдае ім выключнае значэнне як прыродазнаўчага фактара. 12 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі займаюць тарфянікі. Гэта, галоўным чынам, у рознай ступені забалочаныя глебы, дзе арганічны слой складае ад дзесятка сантыметраў да некалькіх метраў. У натуральным стане гэта дзіўныя па ёмкасці акумулятары вады. Кожны кілаграм сухога рэчыва здольны ўцягваць у сябе 20 кілаграмаў вільгаці. Як толькі выбіраецца торф, адразу парушаецца водны баланс, а гэта значыць, што і ўвесь узаемназвязаны ланцужок біяцэнозу навакольных палёў і лясоў. Да таго ж тут фармуецца непаўторная фауна і флора. Напрыклад, мноства відаў лекавых, кармавых і вітамінных відаў раслін, натуральныя плантацыі журавін і іншых ягад.

Вось чаму першым заданнем, якое давялося вырашыць вучоным, было акрэсліць дапушчальную граніцу ўмяшання чалавека ў жыццё балот.

У цяперашняй пяцігодцы вырашана адмовіцца ад спальвання торфу ў печах электрастанцый. Змяншаецца і абсалютная яго здабыча. Дарэчы, лёс кожнай новай торфараспрацоўкі вырашаецца толькі пасля таго, як свой дазвол на эксплуатацыю дадуць эколагі.

Прынцыпіяльна новымі ў распрацаванай вучонымі „тарфяной дактрыне" з'яўляюцца прапанаваныя імі спосабы рацыянальнага выкарыстоўвання здабываемага торфу.

Яшчэ нядаўна на торф глядзелі як на нейкі цэласны прадукт, выкарыстоўваючы яго практычна без папярэдняй апрацоўкі. Сёння створаны комплексныя безадпадкавыя тэхналогіі, калі з сыравіны па чарзе выдабываюцца найбольш каштоўныя кампаненты. Аказалася, што пры дапамозе біяхімічнага і тэрматэхнічнага сінтэзу з торфу можна атрымаць не менш дэфіцытных рэчываў, чым з нафты.

„Смятанку" збіраюць хімікі, атрымліваючы так званыя воскавыя рэчывы. Яны прымяняюцца ў вытворчасці дакладнага ліцця, спецыяльных раздзяляльных змазак, капіруючых і абаронных кампазіцый, прадметаў бытавой хіміі, касметыкі, у паліграфіі і нават у медыцыне. Напрыклад, атрыманы мазі, якія маюць здзіўляючыя лячэбныя якасці. У торфе знаходзяцца такія актыўныя біялагічныя рэчывы-стымулятары, якія выкарыстоўваюцца для атрымання прэпаратаў супраць пухліны і вірусаў.

Пасля аддзялення з торфу воску торф можна выкарыстоўваць для вырабу розных рэагентаў, актыўных вуглёў і фарбавальнікаў, каталізатараў. Распрацавана новая, навукова абаснаваная структура выкарыстоўвання торфу ў раслінаводстве і жывёлагадоўлі. Унясенне яго ў чыстым выглядзе ў якасці ўгнаення — гэта далёка не самы эфектыўны спосаб падкормкі палёў. Таму знойдзены спосабы атрымання з торфу цэлага шэрагу роставых рэчываў якасна новых угнаенняў. Напрыклад, комплексных гранўляваных аргана-мінеральных, якія ўтрымоўваюць у сабе ўсе тры падставовыя кампаненты — азот, фосфар і калій. Яны павышаюць ураджаі на 15-20 працэнтаў.

Прапусціўшы торф праз гама-ўстаноўку, атрымліваюць пажыўную глебу для гадоўлі азотна-клубенькавых бактэрый. Усяго 200 грам рызатарфіну, як назвалі аўтары гэты новы від мікрабіялагічнага ўгнаення, дастаткова ўнесці на гектар, каб моцна павысіць ураджай бабовых.

Шмат карысных прэпаратаў і матэрыялаў атрымліваюць з торфу. Але ён мае яшчэ адну цудоўную якасць — ахоўвае прыроду. Бо ж торф, асабліва сухі — цудоўны абсарбент, гэта значыць, паглынальнік параў і газаў, у тым ліку і шкодных для асяроддзя. Самыя тарфянішчы выконваюць шэраг важных прыродаахоўных функцый: падтрымліваюць водны рэжым мясцовасці, дапамагаюць захаваць кліматычныя ўмовы, флору і фауну. Па прапанове вучоных у Беларусі ўжо створаны шматлікія запаведнікі і заказнікі.

**Вячаслаў Хадасоўскі**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Ступень тайнасці сватоў намнога меншая, чым допытаў. Аднак і тут праяўлялася пэўная асцярожнасць. Зусім яўна, а нават дэманстратыўна сваты накіроўваліся ў дом бацькоў дзяўчыны толькі тады, калі існавала пэўнасць, што закончацца яны поўнай удачай. Такая ўпэўненасць магла быць толькі тады, калі ўсё раней было дамоўлена і акрэслена. Калі такой упэўненасці не было, дык сваты захоўвалі асцярожнасць і найчасцей накіроўваліся ў дом дзяўчыны не вуліцай, а прабіраліся па загуменні. Нягледзячы на такую засакрэчанасць, практычна нельга было затаіць факт знаходжання сватоў у дадзенай хаце. Зрэшты, сям'я дзяўчыны не была зацікаўлена ў такім затаенні факта сватоў. Справа ў тым, што сваты ў доме дзяўчыны ўзнімалі прэсціж дзяўчыны ў вачах вясковай грамадскасці. Чым больш прымала яна сватоў тым вышэй уздымалася яе вартасць і слава ды пабольшваліся шанцы лепшага выхаду замуж.

Тут варта агаварыцца, што ў старажытных часах, у дахрысціянскі перыяд і, мабыць, у раннюю пару хрысціянства на беларускіх землях існаваў спецыфічны спосаб здабывання жонак. Ананімны аўтар „Аповесці мінулых гадоў“, якая была напісана ў XII стагоддзі, пералічвае плямёны, у якіх існаваў „зверінскіі образ“ здабывання жонак. Гэты спосаб заключаўся ў пакражы і ўхопліванні дзяўчат над водамі або ў часе ігрышчаў. Сярод плямёнаў, якія карысталіся такім метадам, аўтар называе таксама племя радзімічаў, на грунце якога ў пазнейшых часах сфармавалася беларуская нацыя.

Форма пакражы жонак з часам выгасла, уступаючы месца куплі жонак. У яшчэ болей позні перыяд усталяваўся спосаб дамоўленасці, які захаваўся да нашых часоў.

Трэба сказаць, што ні адзін нават з найбольш пажылых інфарматараў з усходняй Беласточчыны не памятае, каб на нашай зямлі існаваў іншы чым сённяшні спосаб засноўвання сям'і. Цікава аднак, што яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя ў вясельным рытуале існавалі пэўныя рэлікты, якія былі далёкімі адгалоскамі старажытнай пакражы, ухоплівання дзяўчат. Стогадовая жыхарка вёскі Бандары Елізавета Бура сказала, што чула ад сваёй маці, што ў перыяд яе маладосці малады хлопец у часе сватоў, застаўшы дзяўчыну на панадворку, хватаў яе за руку або на рукі і цягнуў або нёс за вароты на вуліцу і толькі там адпускаў яе і вяртаўся з ёю на панадворак. У такіх паводзінах хлопца трэба бачыць далёкія адгалосці, імітацыю старажытнага ўхоплівання жонак.

Што датычыцца формы куплення жонак, дык яго сляды яшчэ да нядаўна ў вясельным абрадзе выступалі вельмі часта. Праяўляліся яны ў рознага ро-

(Працяг на стар. 7)

Думаючы пра Леапольда Родзевіча — якраз дзевяностая гадавіна Яго нарадзінаў — вяртаюцца ў памяць аповесці маёй маці пра дваццатыя гады. Яна двойчы пераставала быць беларускай — у час „*бежанства*“ ў Смышляеўцы, што за Самараю, і стаўшы потым служанкаю ў Беласточку, тады пад Беластокам. Асеўшы ўрэшце ў бацькоўскім засценку Барсуковіна, што на ўзлессі Крынскай пушчы, трохі хлябнула з крыніцаў роднага. Дзядзькі ладзілі падполле, як разумею я цяпер: сетку Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Брат жа арганізоўваў у блізкай вёсцы Плянты „*прадстаўленне*“ пад назваю „*Збянтэжаны Саўка*“, доўга слаўнае тут над слаўнымі!

# ТАЙНІЦЫ ЛЁСУ РОДЗЕВІЧА



Толькі ад нядаўняга стала мне вядомым, што твор гэты ёсць Родзевіча менавіта, і што без яго партызанскі той рух не быў бы такім, якім быў, і што гэты юнак яшчэ, па-праўдзе кажучы, адыграў велізарную ролю ў тадышнім змаганні. Так бывае ва ўсялякую рэвалюцыю — у славутую французскую бязвусы сянкюлёт даходзіў да генеральскага звання, а ў расійскую семнаццацігадовы сын настаўніка Аркадзь Гайдар камандаваў палком Чырвонай Арміі. Нашаму Леапольду Родзевічу было за дваццаць пяць, калі вырас ён на правадыра вызваленчага руху заходнебеларускіх сялянаў, які выразна пераўтвараўся ва ўзброенае паўстанне ў імя зямлі для ўсіх і Беларусі беларусам.

Лёлік, як клікалі яго дома, нарадзіўся 26 чэрвеня 1895 г. у фальварку Кур'янаўшчына на Віленшчыне, і быў пятым дзіцём Алойза Яна і Ялены Яноўшчанкі. Шляхецкі род Родзевічаў аказаўся моцна збяднелым, але не настолькі, каб не цаніць кніжак, адукацыі, культурнасці. У бацькі не вяліся грошы, маці ўспамагала дзяцей, чым магла; харчамі. Лёлік, закончыўшы ў Вілейцы гарадское вучылішча, падаўся ўслед за сястрою і братам у старую Вільню па навукі далейшыя, дзе зарабляў на сваё ўтрыманне работаю на цукеркавай фабрыцы, затым на пасадзе чарцёжніка (тэхнічнага рысавальніка) ва ўстанове сялянскага банка. Атэстат сталасці хіміка-тэхніка атрымаў, здаючы экстэрнам экзамен. Самота не надакучвала яму занадта, любіў быць у адзіноце, шмат чытаць, слухаць успаміны старых людзей (тыповыя рысы характару ў тых, хто прыйшоў на свет гэты мазгавітым і з немалым талентам). Мы, магчыма, не ведалі б сёння нават і гэтых элементарных у кожнай біяграфіі дадзеных, калі б Бог пашкадаваў даўгавечча Лёлікавай старэйшай сястры Яніне, рэпатрыянтцы з „крэсаў“, якая амаль стагадовай бабулькай памерла гадоў шэсць назад у мазурскім Элку. Справа ў тым, што Леапольд Родзевіч жыў пераважна ў канспірацыі, штораз пераўвасабляючыся ў кагосьці, і таму няхутка будуць расшыфраваны ды ідэнтыфікаваны з ім усе тыя факты, палітычныя і літаратурныя (адных псеўданімаў яго ўстаноўлена дагэтуль каля дваццаці!).

Пісаць пачаў ён рана. У семнаццаць гадоў, назваўшыся Міколам Грымотам, стварыў драму „*Блуднікі*“ (катэгарычна забароненую царскай цэнзураю). Захапіўся тэатрам; апынуўся ў вядомай тутэйшай трупе Ігната Буйніцкага. Неяк пасля спектакля адшукаў яго за кулісамі сам Іван Луцкевіч і пахваліў, таксама і за тое, што добра піша ён у „*Нашу ніву*“. Можа, за „*Блуднікаў*“? Пра палітыку Лёлік завельмі не думаў. Бачыў сваю будучыню ў служэнні сцэнічнаму майстэрству і духоўнасці беларускай нацыі. Родзевічы наогул цягнуліся да мастацтва, здольна танцавалі, дэкламавалі. Пра Вільню свайго пакалення напіша Леапольд, што прыбыў ён у яе зацюканым хлапчанём з вясковых дарог і што яна заваражыла яго веліччу навукі і культуры, і натхнёнасцю Беларусі адроджанай, Беларусі спакутаванай і падпольнай, і творчай... Няма адказу на пытанне, якім чынам адбылася гэтая яго сустрэча. Даследчык Арсень Ліс недзе адкрыў, што маладыя Родзевічы раней пазнаёміліся з карэспандэнтам „*Нашай нівы*“, які пражываў у суседнім з Кур'янаўшчынай мястэчку Даўгінава. Але — як, калі, і хто гэта быў? Які эмісар Маладой Беларусі? Маглі ж яны, калі б захацелі трымацца панамі, звязацца з якой хочаш польскай арганізацыяй, якімі ажно кішэла легендарнае „*места віленскае*“!

Хоць і не схапіла яго сваімі крывавымі кіпцюрамі першаваенная завіруха, бо быў з яго слабак, аднак давялося і яму пашвэндацца па ўскіпелай Расіі. Паехаўшы падлячыцца да сястры, што жыла замужам у Георгіеўску (паўночны Каўказ), трапіў там пад татальную мабілізацыю ў белую армію, з якой шчасліва ўцёк проста ў Мінск, дзе папрацаваў пісарам у Беларускай вайсковай камісіі; паспытаў урадніцтва і ў беларускім міністэрстве сельскай гаспадаркі, затым трохі настаўнічаў у родным ваколлі; публікаваўся ў друку Беларускай Народнай Рэспублікі і, неўзабаве, Савецкай Рэспубліцы Беларусі. Як успамінаў, два разы ўсяго пабываў на партыйных сходах, канкрэтна: беларускіх сацыял-дэмакратаў (завалочаны туды, як іранізаваў сам з сябе).

Аціхлі бітвы ды рэвалюцыі, і бачым Родзевіча ізноў у каханай Вільні. Відаць, у тую пару, калі пасля Рыжскага трактата зрабілася канчаткова ясна, што Беларусь падзелена, Леапольд Родзевіч перажываў дрыготкія хістанні, як лепей служыць Айчыне: „*пісьменніцкім пяром, ці баявым тапаром?!*“ У яго равесным гурце сяброў з'явілася магутная індывідуальнасць Максіма Гарэцкага, будучага аўтара „*Віленскіх камунараў*“, але перш за ўсё глыбокадумнага гісторыка беларускай літаратуры, які яшчэ ў дваццатым годзе пісаў пра Лёліка як пра цікавага літаратара-мадэрніста. Абодва яны, — незвычайнага духа ды палкага натхнення, акунуліся з галавою ў дзейнасць, у выдаванне газет ды кніжак, адкуль ужо адзін крок да гарачае палітыкі, рэпрэсіяў і турмы. Максім неўзабаве вымушаны быў пераехаць у Мінск, ратуючыся ў БССР, пакідаючы даверліва ўсю работу на рукі якраз Лёліка. Працаваў ён дзень у дзень да світання; усё менш і менш заставалася яму сілаў на ўласную творчасць, бо аддаваў усяго сябе нацыянальна-вызваленчай справе. Аўтар папулярных сцэнічных твораў, пранізлівых апавяданняў і буравесных вершаў „*наступіў на горла сваёй песні*“ і зацінуў у далоні „*баявую сякеру*“, — засмоктвала яго непасрэдная барацьба. Ён назаўсёды прадвызначыў гэтым свой жыццёвы шлях як рэвалюцыянера, у канцы якога рэдка каго чакаюць з ружовымі букетамі прызнання. Эпоха надыходзіла такая, аднак жа, што шчыры беларус не мог не быць адначасова і камуністам — пераможны камунізм фактычна гарантаваў насуперак усім Беларусь, долю ёй ды імя.

Леапольд Родзевіч, Язэп Лагіновіч і Арсень Канчэўскі засноўваюць канспірацыйныя структуры, якія спачатку былі вядомыя як Беларуская камуністычная партыя (некаторыя лічаць інспіратарам і духоўным айцом яе Усевалада Ігнатоўскага, акадэміка і дзяржаўнага дзеяча, трэба тут дадаць — народжанага ў Такарах, што каля нашага Мельніка). Гэта тая ж Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, якая ў 1923 годзе аб'ядналася з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі.

Ціхія сходкі, аператыўныя нарады, начныя пераходы пад зоркамі Вялікай Мядзведзіцы, кальпартаж „*бібулы*“ і візіты за „*зялёную граніцу*“, кіраванне партыйнай работаю на Гродзеншчыне і вяртанне ў Вільню, каб умацоўваць цэнтральную рэдакцыю, нясціхная асцярога ды існаванне ў ізаляцыі (каб не напароцца на шпіка або „*стукача*“ ў шуме гарадскім ці ў вэрхале люднае вёскі) — усё гэта, на жаль, зніштажала ў Лёліку мас-

(Працяг на стар. 5)



Камендант Ваяводскай камендатуры супрацьпажарнай стражы ў Беластоку, палкоўнік Клеменс Дзярманскі ўручае значкі і медалі найбольш заслужаным гайнаўскім стражакам.

# НАВАТ І Ў АГОНЬ

(Працяг са стар. 1)

будынкаў! Гэта ж адна вялікая вёска! Колькі пасля трэба нахадзіцца, нанервавацца, накланяцца розным чыноўнікам, каб збудаваць новы жылы дом або абору ці клуню! Гэтага таксама не адлюстроўвае гэтая „агнявая" статыстыка. У ёй няма слёз і жалю пакрыўджаных людзей.

15 жыхароў Беластоцкага ваяводства трагічна загінула ў агні ў мінулым годзе. Сярод іх чацвёра дзяцей. 17 стражакоў было паранена, некаторыя вельмі цяжка.

На працягу чатырох першых месяцаў гэтага года, месяцаў найменш спрыяльных для ўзнікнення пажараў, бо халодных і дажджлівых, здарылася ўжо ў Беластоцкім ваяводстве 277 пажараў. Затраты — 77 мільёнаў злотых. Сем чалавек загінула, 6 стражакоў паранена.

Бо стражакі, калі спатрэбіцца, без хістання пойдуць нават у агонь, каб ратаваць іншых, чужую маёмасць. Сам я гэта бачыў і не толькі ў час практыкаванняў, але і ў час сапраўднай баявой акцыі. Недалёка ад месца, дзе я жыву ў Беластоку, у колішнім яўрэйскім квартале, неяк загарэліся два старыя драўляныя будынкі, якія цудам уцалелі ў час ліквідацыі яўрэйскага гета. Адзін дом быў ужо пусты, прызначаны на развалку, і ён найперш заняўся агнём. Падпалілі яго, праўдападобна, малыя хуліганы, якія даўжэйшы час наладжвалі там свае дзікія гульні. Гасіць яго было вельмі цяжка, бо сухое, смалістае дрэва займалася, як запалкі. Ды й гасіць не было вялікай патрэбы, бо там ніхто ўжо не жыў. Аднак, стражакі самаахвярна змагаліся з агнём і згасілі яго амаль у зародку.

Другі, таксама драўляны будынак, знаходзіцца яшчэ бліжэй майго блока. Загарэўся ён ноччу, калі мы спакойна спалі. Людзі пачалі выкідаць праз вокны сваю маёмасць. Раптам узняўся крык, што нехта ў агні. І стражак скочыў у акно, з якога бухала ўжо полымя. І выратаваў дзіця, хаця і яго самога тут жа забрала хуткая дапамога. Астаўся і будынак.

Камендант Ваяводскай камендатуры супрацьпажарнай стражы ў Беластоку, палкоўнік Клеменс Дзярманскі сцвярджае, што на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў мінулым годзе пажарнікі выратавалі ад знішчэння амаль тысячу будынкаў.

Гараць не толькі адзіночныя будынкі. У Беластоку вельмі небяспечныя пажары здарыліся на прадпрыемстве „Гербаполь" і на шклозаводзе.

Вельмі небяспечнымі з'яўляюцца таксама пажары лесу. У мінулым годзе пайшло з дымам звыш 400 гектараў лесу, а да мая гэтага года — згарэла ўжо 135 га лесу.

Прычыны. Яны розныя, але найчасцей ды пастаянна паўтараюцца неасцярожнасць і лёгкадумнасць дарослага насельніцтва, асабліва ў вёсках. Патрэбнае вось святло ў хляве або ў клуні, дык дамарослы спецыяліст-электраманцёр цягне туды нейкую лямпачку на абы-якім дроце і вешае яе сярод саломы і павуціння. Перагарыць засцерагальны корак, дык хутчэй запіхаюць у яго абы-які дрот, не думаючы, што гэтым чынам можна давесці да такога награвання электраправадоў, што стопіцца ізалятар і пажар гатовы. Гэтае самае будзе, калі да электралініі падключыць электрапрылады, патрабуючыя высокай энергіі. Пакінутыя бутэлькі ў лесе, недакуркі, выпальванне травы на сенажаці і так далей — прычын пажару вельмі многа. Здараюцца, на жаль, і злачынныя вылазкі. 44 пажары ўзніклі ў Беластоцкім ваяводстве ў мінулым годзе ў выніку злачыннага падпалу.

Але хопіць гэтай жудаснай агнявой статыстыкі. Пара нам у Гайнаўку, дзе 19 мая адбылося ганаровае ўшанаванне 60-гадовай дзейнасці добраахвотнай і прафесіянальнай пажарных каманд. Іх гісторыя пачынаецца ў 1925 годзе, калі ў тадышніх тартаку, хімічнай і пры ўпраўленні вузкачыгуначных дарог былі заснаваны дружыны добраахвотнай супрацьпажарнай стражы. У 1937 годзе ў Гайнаўцы дзейнічала ўжо пяць атрадаў супрацьпажарнай аховы, якія аб'ядналіся ў адну арганізацыю. Новы раздзел у гэтай дзейнасці пачынаецца пасля вызвалення Гайнаўкі ад гітлераўскіх захопнікаў. Цяпер, апрача Раённай камендатуры Саюза добраахвотных супрацьпажарных атрадаў, дзейнічае ў Гайнаўцы прафесіянальная гарадская стража і завадскія атрады пажарнікаў маюць усе буйнейшыя гайнаўскія прамысловыя прадпрыемствы.

У Гайнаўскім раёне пасля вайны пабудаваны 22 супрацьпажарніцкія рамізы і 43 вадасховішчы.

60-годдзе супрацьпажарнай стражы ў Гайнаўцы святкаваў цэлы горад. Адбылося ўрачыстае пасяджэнне з удзелам прадстаўнікоў ваяводскіх і мясцовых улад, ускладзены вянкі і кветкі ля помніка ў гонар вызвалíцелям Гайнаўкі ад акупантаў, наладжаны паказ спраўнасці тутэйшых стражакоў у розных небяспечных абставінах.

**В. Рудчык**
Фота аўтара



Гайнаўскія стражакі на ўрачыстым парадзе ў гонар свайго 60-годдзя. Калі, аднак, спатрэбіцца, дык пойдуць яны нават і ў агонь.

(Працяг са стар. 3)

# ТАЙНІЦЫ ЛЁСУ РОДЗЕВІЧА

така, але затое перакоўвала яго ў патрэбнага палітыка, у рыцара змагароў. Падобныя прыклады знаходзім нават у сусветнай літаратуры — Байран, які пайшоў у грэцкае паўстанне супраць туркаў, Міцкевіч, які пасля напісання *„Пана Тадэвуша"* свету не бачыў за ідэяй паходу легіёнаў у затаптаную Польшчу. У снежні 1924 года другая канферэнцыя КПЗБ на неапаўшай смутнай хвалі ў краіне і ў Еўропе аднагалосна прымае непраўдападобную пастанову аб арганізоўванні ўсенароднага паўстання за далучэнне да БССР. І трэба было тады ажно інгерэнцыі ды тлумачэнняў савецкіх і камінтэрнаўскіх вопытных палітыкаў, каб *„асела гарачка"* ў нашых па-кавалерску кучаравых барацьбітоў, якім *„мора было па калені"*. Знакі веку паказвалі на тое, што рэвалюцыю не робяць экзальтаваным крыкам, без аналізу рэальнасці ў сябе і на міжнароднай арэне, без цэлай тае бухгалтэрыі з рубрыкамі *„за"* і *„супраць"*. Інакай — усё ўкрыюць смерць і пажары. Палітычная паліцыя *„дэфензіва"* і польская контрразведка збіваліся з ног у пагоні за *„Антосем"*, *„Ігнатам"*, г. зн. за Леапольдам Родзевічам; агентура працавала пад высокім сігналам трывогі.

Ён, ужо ў апошні раз, прабраўся за стаўбцоўскі кардон; пасля з болем прыглядаўся, як падымалася і падала Грамада. У сталічным Мінску знаходзіўся ў суровым сакрэце, узначаліўшы там замежную рэдакцыю Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якая з'яўлялася ў апараце Прадстаўніцтва КПЗБ пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Яго лёс нагадвае ў нечым Тарашкевічаў пасляграмадоўскі. Маючы тэмперамент ды інтэлект трыбуна і папулярнасць, уяўляў ён сабою, можна сказаць, натуральнага кандыдата на кіраўніка ўсяе КПЗБ, яе найпершага сакратара (стаў ім Лагіновіч-Корчык, якога перарасла сітуацыя і цяжка параўноўваць яго з выдатнасцю Родзевіча). Далёкія шляхі-дарогі Леапольда Родзевіча толькі ў нашы дні вяртаюць людзям яго добрае імя, беларускай культуры яго нязвыклую творчасць. А пакуль што хаця б біяграфію яго поўную ніхто не напісаў, і таму нізкая падзяка ад нас незэннай Аляксандры Бергман за тую жменю фактаў, карпатліва ўзбіраных ёю, без чаго мы сёння, можа, і не падазравалі б таго, што ў нашым пантэоне таемны велікан Белай Русі, Леапольд Родзевіч.

**Сакрат Яновіч**

(Працяг са стар. 4)




як у быка. Вярзіла злякаўся і быў паслухмяны.

Заехалі на панадворак парай такіх коней, што цяжка ўтрымаць. Бацька астаўся, каб даць коням есці, а маршалак папхнуў перад сабой жаніха ў хату. Увапхнуўшы, паказаў, дзе мае сесці, а сам сказаў: „Добры хлапец і прыгожы, але нясмелы“. Дзяўчына ўбычыла нейкага, пад страху падстрыжанага ножніцамі, жаніха і злякалася. А маршалак палажыў на стале буханку хлеба — каравая, ды паставіў бутэльку гарэлкі з чырвонай наклейкай. Бацькі і маршалак паміж сабой таргаваліся, дзяўчына ў кухні плакала, а кавалер сядзеў, дзе яму казалі, і маўчаў. Праўда, сказаў адзін сказ, якім перапалохаў гаспадыню цырымоніі, але іншыя расмяяліся над „дасціпнасцю“ малайца і далей вялі гутарку аб вяселлі. А сказ яго быў такі: „Але ж у вас клусты мухі!“

Не буду апісваць усяго гора дзяўчыны і ўсіх перыпетый, звязаных са шлюбам, хопіць сказаць, што маршалак-хітрун давёў да вяселля. Дзяўчына мела цешыцца тым, што будзе ісці побач юрадзівага на яго поле, мыць ягоную бялізну, дбаць пра гаспадарку, каб наеўся ён і ягоныя бацькі. Ніхто не цікавіўся такімі „дробязямі“, як любоў і пяшчоты.

Маладзіца жыла, як бацькі прыказалі, але яшчэ аднаго не ведала. Менавіта не ведала таго, што яе муж цёмнай ноччу баіцца адзін выходзіць на двор. Не раз бачыла, як выходзіў ён з бацькам, але не здагадалася, у чым справа. Аднак, калі бацьку пахавалі і яму аднойчы так захацелася, што далей няма куды, давай ён будзіць жонку, каб вывела яго на панадворак. Тая, як добрая душа, устала, ды й вывела. Яна стаіць у сенях, а ён на парозе робіць сваё і глядзіць у начное неба, на якім мігацяць зоркі. Ды гаворыць: „От, хороша нуоч, з чужэю жуонкою у свет пушоў бы!“ „Ах ты, свынё нескрэптана, — знервавалася жонка, — то я тэбэ выводжу на двуор, як малого, халучу, ополоскую, кормлю, а ты хочэш іты у свет з чужэю жуонкою? Котора такую лылу схочэ, але йды, коб ты нэ вэрнуўся!“ — і трахнула дзвярыма ў спіну аматара чужых жонак, аж той босымі нагамі хлёпнуў у балота, а яна засунула сені і лягла далей спаць. Бандура вярнуўся дадому аж раніцай, бо Параска дзвярэй не адчыніла, хаця прасіў і пагражаў.

Трэба сказаць, што на яе долю дзеці былі прыгожыя і разумныя, як яна і сусед.

**Васіль Петручук**



**Фэст у Літвінавічах адкрывае старшыня мясцовага гуртка ЗСЛ Анатоль Леўчук. Сярод ганаровых гасцей таксама прадстаўнікі БГКТ: намеснік старшыні Прэзідыума ГП БГКТ Кастусь Майсеня (чацверты справа) і сакратар Прэзідыума ГП БГКТ Віталіс Луба (першы злева)**

# Фэст у Літвінавічах

У Літвінавічах, што ў гміне Нурэц-станцыя, на паўднёвым усходзе Беластоцкага ваяводства, у нядзелю, 2 чэрвеня г.г., на першы дзень Тройцы, адбыўся народны фэст. Яго арганізатарамі былі Аб'яднанае людовае староніцтва і Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Сялянскую партыю на фэсце ў Літвінавічах прадстаўлялі: Збігнеў Залеўскі — намеснік старшыні Ваяводскага камітэта ЗСЛ у Беластоку, старшыня гміннага камітэта гэтай партыі ў Нурцы Анатоль Хурсовіч і Анатоль Леўчук — старшыня гуртка ЗСЛ у Літвінавічах. Ад БГКТ былі прысутныя: намеснік старшыні Прэзідыума ГП БГКТ Кастусь Майсеня, сакратар Прэзідыума ГП БГКТ — Віталіс Луба (ён жа і сакратар гміннага камітэта партыі ў Мілейчыцах) і Міхась Вішанка — інспектар ГП БГКТ на сямяціцкі раён, заслужаны дзеяч Беларускага таварыства, які таксама ўзяў на сябе абавязак весці мастацкую частку гэтага фэста.

У арганізацыі народнага свята ў Літвінавічах удзельнічалі дзве суседнія гміны: Нурэц-станцыя і Мілейчыцы. Таму з прыемнасцю адзначаю прысутнасць прадстаўнікоў улад з гэтых гмін: начальніка Мілейчыцкай гміны Мікалая Бартнічука і начальніка гміны Нурэц-станцыя — Пятра Кавалевіча. Абодва яны — беларусы. Аб М. Бартнічуку і мне, і маім сябрам па пяру неаднойчы даводзілася ўжо пісаць на старонках „Нівы“, бо ён з тых начальнікаў, да якіх мы едзем, як да бацькоў у госці. Затое Пётр Кавалевіч стаў на сваю пасаду параўнальна нядаўна і яму варта прысвяціць некалькі слоў. Паходзіць ён якраз з гэтых жа Літвінавіч. Тут яго жонка вядзе вялікую і добра наладжаную гаспадарку, якая асталася яму ў спадчыне ад бацькоў. Калі я пытаў у салтысіхі, у Марыі Страпчук, каго яна ў Літвінавічах лічыць самым лепшым гаспадаром, дык у адказ найперш пачуў я прозвішча начальніка Нурэцкай гміны Пятра Кавалевіча.

— У іх вельмі добра пастаўлена гадоўля кароў і кожны дзень здаюць яны многа малака, — гаварыла пані солтыс, а ўжо пазней назвала яна яшчэ аднаго Кавалевіча, але Яна, і Яраслава Якаўлюка, якія таксама вылучаюцца сваёй гаспадарнасцю сярод іншых 60 літвінавіцкіх гаспадароў. Ад сябе я б дакінуў яшчэ прозвішча і самой пані солтыс, значыць, Марыі Страпчук, якая ўжо многія гады спраўна спалучае абавязкі солтыса вёскі, старшыні гуртка вясковых гаспадынь і прыкладнай гаспадыні, што разам з мужам Віталісам на высокім узроўні вядзе ўласную гаспадарку.

Сярод гасцей, якіх арганізата-



**БГКТ наладзіла кніжную латарэю сваіх выданняў, якая карысталася вялікім зацікаўленнем. Вядзе яе Міхась Вішанка.**




Пад вечар збегліся яны на адасоблены хутар у вёсцы Грыбаўцы. Ніхто іх не склікаў і загадзя яны не дагаварваліся на гэтую сустрэчу. Проста вельмі хацелася пагутарыць з сябрамі аб гэтай першай сваёй баявой вылазцы на чыгунку, хацелася ведаць, чым усё гэта закончылася. З апавяданняў аднавяскоўцаў яны маглі толькі здагадвацца, што нейкі таварны эшалон выскачыў з рэек і немцы сілай зганялі сялян, каб навесці парадак на чыгунцы.

Сабраліся ў клуні. Размясціліся, дзе хто мог, і чакалі Кастуся-чыгуначніка. Ён мог ведаць найбольш.

— Ну, здарова, героі! — прывітаў сваіх сяброў з'едлівай ірoніяй.

— Ну, гавары, Косцік, гавары, як там! — абступілі яго цесным кругам. Косцік маўчаў, водзячы вачыма па тварах сяброў, як бы правяраў, ці няма сярод іх каго непажаданага. У цьмяным святле, якое скупа прасочвалася ў клуню, ледзь разрозніваў іх твары.

— Гаўно! — адрэзаў урэшце, цяжка ўздыхнуўшы. У клуні зашумелі. Не такой весткі спадзяваліся ад свайго сябра-чыгуначніка. То ж кожны з іх хадзіў ужо надуты і горды, як паўлін сярод сваіх самак, носячы ў грудзях пачуццё здзяйснення чагосьці вялікага, — геройскага. То ж і па вёсках ужо аб гэтым ішла гаворка!

— Ты, Кастусь, з нас тут не жартуй! — папярэдзіў яго Сцяпан Капітанчык.

— А я і не думаю жартаваць, — таксама ўсур'ёз адказаў Кастусь. — Сапраўды, гаўно выйшла з нашых намаганняў. Пусцілі мы пад адхон тры пустыя таварныя вагоны. Вось чаго мы дабіліся!

— Значыць, няўдача, — неяк сумна заявіў Капітанчык. Іншыя маўчалі. Капітанчык паглядзеў на сваіх сяброў. Свайго камандзіра яны яшчэ не мелі. Не даспела ў іх яшчэ свядомасць, што ствараюць яны баявую групу падпольшчыкаў-антыфашыстаў. Найбольш аўтарытэтным лічыўся голас Сцяпана Кандрусіка, значыць, Капітанчыка. Можа таму, што меў ён за сабою славу падпольшчыка, ветэрана дзейнасці ў КПЗБ, а можа таму, што выдзяляўся ён сваёй развагай.

— Немцы сцягнулі рабочых, — інфармаваў Кастусь-чыгуначнік, — сагналі сялян і цераз дзве гадзіны давялі чыгуначную лінію да поўнай спраўнасці. Толькі гэтых вагонаў не паспелі яшчэ забраць.

Сябры слухалі яго, маркотна звесіўшы галовы. Кожны з іх спадзяваўся чагосьці непаўторнага, ашаламляючага. А тут — зусім малазначны эпізод у будзённай гісторыі акупіраванага краю.

ры запрасілі на свой фэст у Літвінавічах, знаходзіліся таксама і прадстаўнікі Людовага Войска Польскага ў асобах падпалкоўніка Казіміра Барана, падпалкоўніка Мар'яна Міксы і паручніка Уладзіміра Грыца. За грамадзянскім парадкам (разам са сваімі падкаманднымі) сачыў камендант Нурэцкай камендатуры грамадзянскай міліцыі, старшы сяржант Генрык Каліцкі. Былі яшчэ прысутныя: Мікалай Падлашчык — сакратар гміннага камітэта партыі ў Нурцы і Тадэуш Ваўжынец — старшыня Нурэцкай гміннай рады нарадовай і адначасова дырэктар пачатковай школы ў вёсцы Сяміхочы.

Каб падрыхтаваць гэты фэст, напрацаваліся жыхары Літвінавіч! Гэта вёска не першы раз праявіла сваю грамадскую актыўнасць. Тут згодна дзейнічаюць партыйная арганізацыя, якая налічвае сем членаў, а сакратаром яе з'яўляецца Уладзімір Леўчук, і гурток Аб'яднанага людовага староннiцтва з лікам 19 членаў пад кіраўніцтвам ужо названага Анатоля Леўчука. Спадарожнічае ім у грамадскай дзейнасці гурток БГКТ пад старшынствам Мікалая Куптэля. Супольнымі сіламі яны прыгожа і дбайна адрамантавалі ды адмалявалі сваю вясковую святліцу.

— Нашу работу ацанілі на 40 тысяч злотых, — сказаў мне Міхаіл Ажахоўскі — трактарыст-камбайнёр з мясцовай базы механізацыйных паслуг, які разам з іншымі сябрамі шчыра працаваў на працягу трох дзён. Апрача гэтага, на грамадскі пачын прысвяцілі яны яшчэ адну свабодную суботу. На працягу васьмі гадзін працавалі пяццю трактарамі, возячы пясок і жвір на разбітыя дарогі. Варта яшчэ ведаць, што Мішка Ажахоўскі з'яўляецца радным, прадстаўніком вёскі Літвінавічы ў гміннай радзе нарадовай.

Але на падзяку і прызнанне заслужыў не толькі ён адзін. Прасілі ў мяне, каб пахваліць Леўчукоў: Басю, Толіка і Мірка; Ажахоўскіх: Пятра, Мішку і Геніка; Мішчукоў: Толіка, Шурку і Славіка; Тыханюкоў: Вітальда і Геніка; Страпчукоў: Марыю і Віталіса (солтыса і яе мужа); а затым Геніка Раеўскага і Мікалая Куптэля.

— Усіх мы і так не пералічым, — заўважыў хтосьці разумна. — Вы лепш напішыце, што фэст у Літвінавічах арганізавалі жыхары гэтай вёскі, старыя і маладыя, дзяўчаты і хлопцы, бо, для прыкладу, хлопцы малявалі сцены, а дзяўчаты наводзілі парадак, вешалі фіранкі...

...Ну і ўрэшце (пагода крыху не спрыяла) распачаўся гэты фэст. Прасторная зялёная пляцоўка, што ля святліцы, памалу запаўнялася людзьмі. Былі выступленні ад ЗСЛ і ад БГКТ. Гаварылася аб багатых традыцыях людовага прагрэсіўнага руху і аб 40-ой гадавіне перамогі над гітлераўскімі захопнікамі.

А пасля ўжо сцэнай (з двух трактарных прычэпаў) авалодалі самадзейныя калектывы. Найперш выступалі школьнікі з Клюковіч, якіх падрыхтаваў настаўнік Яўгеній Касперук, а пасля спявалі „хлопцы-рыбалоўцы", значыць, мужчынскі калектыў з Рыбалаў пад дбайным кіраўніцтвам заслужанага дзеяча самадзейнага мастацтва Пятра Нявінскага. Мужчын падмянілі жанчыны з вёскі Дашы: Марыся і Надзя Гашчэнкі, Валя і Ніна Міцэвіч і Зося Кердалевіч. Як заўсёды, выступалі яны бадзёра і цешылі народ сваімі сялянскімі жартамі.

Упершыню давялося мне бачыць на сцэне вельмі сімпатычны маладзёжны калектыў з вёскі Тымянка, які ўзнік ледзь паўтара года таму назад. Кіруе ім Жэня Семянюк пры дапамозе Ірыны Ключак — дырэктара Нурэцкага ГОКу. Асабліва спадабалася ў гэтым калектыве маленькая Бажэна Ключак, вучаніца IV класа, якая спявала і адыгрывала гумарыстычныя сцэнкі.

Фэст у Літвінавічах закончыўся маладзёжнымі танцамі і пачастункам для запрошаных гасцей. Гэта ж была Тройца, а ў такое свята добры гаспадар не выпускае гасцей з хаты без пачосткі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**Школьнікі з Клюковіч выступілі з патрыятычнай інсцэніроўкай аб міру і вайне.**



**Жанчыны з Дашоў забаўлялі ўдзельнікаў фэсту ў Літвінавічах сваімі задорнымі песнямі і фамільярнымі жартамі.**

---

— Нічога, як на першы раз, добра і гэта! — Капітанчык спрабаваў падбадзёрыць сяброў. — Мы паказалі фашыстам, што яны нас не запалохалі, што знайшліся адважныя людзі, якія асмеліліся выступіць супраць магутнага і жорсткага акупанта. Хай ён ведае, хто тут надалей астаецца гаспадаром!

І гэта была праўда. Толькі аб гэтай праўдзе можна меркаваць нам з перспектывы гісторыі, ведаючы падзеі, якія здзейсніліся пазней. А тады толькі што пачыналася вясна 1942 года, гітлераўскія полчышчы ўсё яшчэ насядалі на Сталінград, у жалезным кальцы блакады трымалі галодны Ленінград і толькі ад Масквы вымушаны былі адкаціцца пад ударамі Чырвонай Арміі.

Нават вядомыя палітыкі на Захадзе ў гэты час сумняваліся ў перамозе Савецкага Саюза і разлічвалі выключна на тое, што гітлераўская ваенная машына настолькі растраціць свае сілы на ўсходзе, што ўжо не зможа атакаваць іх заморскія краіны.

А тут гэтыя людзі з Гарадка, Страшава, з Пілатоўшчыны, Меляшкоў, Грыбаўцаў, Валіл, Скраблякоў і з многіх іншых вёсак ўсё яшчэ не патрацілі надзеі на перамогу над гітлераўскімі захопнікамі. І — свядома ці не — уносілі свой скромны ўклад у гэтае аграмаднае змаганне дзвюх ідэй і двух веліканаў. Гісторыкі падлічылі, што ў 1942 годзе на тэрыторыі Беларусі партызаны ўзрывалі кожны дзень па пяць-шэсць варожых эшалонаў. Партызанскія вылазкі на чыгунку ўзмацніліся асабліва тады, калі ішла рашаючая бітва за Сталінград, бітва, якая павярнула русло гісторыі ўсяго свету. Гэта адзначае „Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" (том X, стар. 33), а ў кніжцы „Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай айчыннай вайны" на старонках 314-318 памешчаны вельмі цікавыя нямецкія дакументы, якія красамоўна сведчаць аб „рэйкавай вайне" беларускіх партызан. Праўда, гэтыя дакументы адносяцца ўжо да наступнага года, калі партызанская барацьба па ўсёй Беларусі набрала ўжо адчувальнай моцы, але і тут варта іх прыгадаць. Адзін з гэтых дакументаў называецца „Данясенне аб надзвычайных здарэннях 18-19 лістапада 1943 года". Імперскае ўпраўленне шляхоў зносін у Мінску паведамляла Галоўнаму ўпраўленню шляхоў зносін Усход у Варшаве, што здарылася на чыгуначных дарогах за адны суткі: ад 18 па 19 лістапада 1943 года. Дакумент гэты вельмі абшырны і няма магчымасці (ды й патрэбы) тут яго перапісваць. Хопіць ведаць, што акупанты ў гэты дзень не мелі ані адной спакойнай гадзіны. Усё пачалося апоўначы, у 0 гадзін 00 мінут, на чыгуначным перагоне Індура-Полацк, калі была знойдзена міна. Пяццю мінутамі пазней, значыць, у 0 гадзін 05 мінут, на чыгуначным перагоне Швараўка-Пагодзіна праведзена 80 узрываў чыгункі, у выніку чаго пашкоджана 75 рэек і 30 шпалаў.

І так з мінуты на мінуту, аж да світання. Невялікі перапынак у баявых вылазках партызан

(Працяг на стар. 8)

---

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты „Ніва"!

Пішa вам жыхар пасёлка Свіслач, што ў Гродзенскай вобласці.

9 мая мне, у складзе дэлегацыі, пашанцавала пабываць на вашай гасціннай Беластоцкай зямлі. Мы былі ўдзельнікамі мітынгу, прысвечанага 40-годдзю Перамогі ў другой сусветнай вайне.

У вас у Польшчы і ў нас у Беларусі, бадай, няма ніводнай сям'і, да лёсу якой не дакранулася гэта жудасная вайна.

Сваю адметку паклала яна і на лёс маёй маці.

Нарадзілася яна ў 1930 годзе ў вёсцы Масева-І, што непадалёку ад Гайнаўкі. У верасні 1941 года сям'ю маці, разам з іншымі жыхарамі вёскі фашысцкія захопнікі вывезлі ў Свіслацкі раён, а вёску спалілі.

Пасля вызвалення многія жыхары вярнуліся зноў у родныя мясціны. Але сям'я маці, страціўшы бацьку, засталася ў Беларусі. Доўгі час не было вестак пра лёс сям'і роднага дзядзькі маці — Грыкі Грыгорыя. З дапамогай савецкага „Чырвонага крыжа" ў 1978 годзе нам давялося знайсці родных, якія пражываюць цяпер у Польшчы. І з гэтага часу паміж намі завязалася перапіска, але сустрэціся з-за розных акалічнасцей не давялося.

У Беластоку на вуліцы Заговнай, дом 17, кватэра 32, пражывае жонка роднага дзядзькі хросная маці мамы — Грыка Марыя Кірылаўна разам з дачкой Казлоўская Аннай.

У Беластоку 9 мая, на выстаўцы „Польшча-СССР" было можна сустрэцца з роднымі, але больш адраса я нічога не ведаў. Калі я звярнуўся за дапамогай у аддзел міліцыі, якая абслугоўвала выстаўку, яны адразу адгукнуліся на маю просьбу і паклалі ўсе намаганні, каб гэта сустрэча, праз 44 гады, адбылася.

Праз вашу газету хачу шчыра падзякаваць аддзелу міліцыі, які 9 мая працаваў у час работы выстаўкі, за чуласць, дабрату і пажадаць ім моцнага здароўя, поспехаў у працы, мірнага неба над зямлёй.

З павагай да вас
**Віктар Брыш**

---

(Працяг са стар. 3)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

ду „куплях", „выкупляннях", „продажах", „торгах", якія паяўляюцца амаль ва ўсіх адслонах вясельнага спектаклю. Трэба аднак заўважыць, што ўся старынная працэдура куплянння жонкі пераўвасобілася ў сваю супрацьстаўнасць. Справа ў тым, што калісьці, закладаючы сям'ю, хлапец уносіў пэўныя сумы або маёмасць яе бацьку; тым часам уся істота „куплі" ў навейшую эпоху зводзіцца да таго, што плаціць бацька дзяўчыны, у форме пасагу. Парадаксальнасць выступае ў тым, што плаціць не той, хто атрымоўвае тавар, а той, хто яго аддае.

**А. Баршчэўскі**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Найлепшыя вучні па беларускай мове разам са сваёй настаўніцай Валянцінай Андросюк.*




На цэнтральным конкурсе беларускай песні для школьнікаў маю ўвагу звярнулі на сябе выступленні дзяцей з Дашоў. Гэтая невялікая прыгожая вёсачка на паўднёвай ускраіне размяшчэння беларускага насельніцтва нязменна прысылае сваіх прадстаўнікоў на ўсе конкурсы беларускай песні.

І на гэты раз дзеці выступілі вельмі цікава. Прыехалі ўсе ў вышываных блузках і фартушках, а калі заспявалі, дык вядома стала, што не ўцячэ ад іх добрае месца. У дуэце вельмі прыгожа заспявалі Малгося Такаюк з Ірынкай Евюк і занялі першае месца. А спяваючы ў квінтэце, дзяўчаткі занялі другое месца. Відаць быў вялікі ўклад працы і ўдзельніц выступлення і іх настаўнікаў.

Захацелася мне пабываць у іх школе, адчуць атмасферу, у якой жывуць гэтыя дзеці.

Школа на ўскраіне вёскі сустрэла мяне дзіцячым гоманам і дружным птушыным спевам. У веснавой зелені дрэў, якія гуртам абступаюць школьны будынак, зусім не баючыся людзей, бясконца спяваюць птушкі. А заліты сонцам двор поўны дзіцячага смеху.

Песеннага майстэрства дзеці вучацца ў дарослых жыхароў вёскі. Тут працуе ўжо даўно і вельмі актыўна жаночы хор. І дарослыя спявачкі з вялікім запалам узяліся памагчы дзяўчаткам прыгожа прыбрацца ў касцюмы на конкурс беларускай песні. Апрача таго, школьны і жаночы калектывы часта выступаюць у супольных канцэртах. Нядаўна ў гонар Дня Перамогі калектывы далі супольны канцэрт у сваёй вёсцы і для жыхароў вёскі Жукі. Цяпер настаўніцы рыхтуюць разам з жанчынамі вёскі супольную беларускую вечарыну — з вершамі, песнямі, сцэнкамі.

У той дзень, калі дзяўчаткі раненька паехалі поездам у далёкі Беласток на конкурс, за іх перажывала ўся вёска, а бацькі некалькі разоў ездзілі на станцыю сустракаць дзяцей. А тыя вярнуліся пазнейшым поездам, бо конкурс быў шматлюдны і моцна зацягнуўся.

Усе дзеці ў гэтай школе вывучаюць беларускую мову. А

(Працяг на стар. 10)



*Удзельніцы конкурсу беларускай песні. Квінтэт заняў другое месца.*

Аляксандр Капусцін




**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Птушкі набліжаліся. Меншая, мусіць, адчуўшы, што да лесу ёй не прарвацца, пабачыла свой адзіны ратунак у людзей і таму кіравала да хлопцаў. Аркадзік і Косцік нарэшце зразумелі яе намер. Яны разам, як па каманздзе, сарваліся з месца, рынуліся насустрач. Замахалі рукамі, закрычалі: „Ату яго!.. Ату!..“ Беглі і падскаквалі, быццам імкнуліся злавіць драпежніка. Каршун, рэзка ўзмахваючы вялізнымі крыламі, узвіўся ўгору. Меншая птушка толькі таго і чакала. Амаль у тое ж імгненне яна стрымгалоў павярнула назад і нізам, як ні кранаючыся чароту, кінулася да лесу. Хлопцы правялі яе радаснымі позіркамі, пастаялі, паназіралі за каршуном. Ён кружыў высока-высока.

— А рыба? — бліснуўшы цёмнымі вачыма, устрывожана выгукнуў Аркадзік. — Пакуль ты тут стаіш, там ужо, відаць, на кручках акуні па кілаграму!

Калі яны вярнуліся да сваіх вудаў, пёрцы-паплаўкі нерухома ляжалі на вадзе. У далекаватай грыўцы лазняку заўзята трашчала сарока, ў траве крычала перапёлка, у высокім блакітным небе тонка звінела нейкая птушка.

Сонца шчодра ліло цёплыя прамяні, прыгравала зямлю, траву, бутоны гарлачыкаў. Беласнежныя кветкі нараджаліся адна за адною. Вунь дзве побач, далей трэцяя, а там чацвертая... Косціку на момант падалося, што ад пялёсткаў, як ад таго нябачнага птаха ў небе, струменілася ледзь улоўная, тоненькая-тоненькая музыка. Хлопчык увесь час чуў яе, толькі не надаваў увагі. Цяпер прыслухаўся. Музыка то гучала, то заціхала. Баючыся, каб не праслухаць яе, ён стаіў дыханне. Дык гучала ці здалося яму? А можа, то бухматы чмель так ціха, пяшчотна гуў сам сабе, радуючыся і прыгажосці кветак, і яе салодкаму нектару. Вунь ён, немаведама адкуль узяўшыся, сеў на бліжэйшую да Косціка лілею... Прадаўгаваты, карычневы ад загару Косцікаў твар быў выразны, задумлівы; вочы пазіралі пільна, засяроджана. Пасля доўгага маўчання, напоўненага чымсьці загадкава-ўрачыстым і разам з тым неспакойным, Косцік хутчэй за ўсё сабе, чым Аркадзіку, прамовіў:

— Ціха, а колькі розных гукаў!.. Адусюль.

Убіраўся ў сілу, развінаўся дзень. Неба налівалася чыстым блакітным святлом, узнялося сонца. Здаволіўшыся нарэшце рыбалкай, хлопцы пачалі збірацца дадому. Зматалі вуды, выцягнулі з лазовага куста апаражненыя ад яды сумкі і паў-

(Працяг на стар. 10)

## ДАПАМАГЛА... МАРУДЛІВАСЦЬ

Аднойчы канструктара Думкіна тэрмінова выклікалі да загадчыка аддзела. „Пэўна, новае заданне?" — заклапочана падумаў ён і накіраваўся ў кабінет начальніка.

— Дзень добры, Іван Макаравіч! — ласкава сказаў загадчык і падаў руку. — Вы былі адказным за распрацоўку канструкцыі „ФІНТ-8"?

— Я, — прыемна пачырванеў Думкін.

— І распрацоўвалі яе больш як пяць гадоў?

— Сем, — удакладніў Іван Макаравіч.

— Мне здаецца, што „ФІНТ-8" вас не натхняў, таму так і атрымалася. А калі больш дэталёва, то вы да даручанай справы аднесліся абыякава і сарвалі заданне.

„Прапаў!" — мільганула ў галаве Думкіна, і ён машынальна прамямліў:

— Д-дазвольце... Звольніцца „па ўласнаму..."

— Не дазволю! Дарэчы, мясцком выдзеліў вам пуцёўку ў санаторый-прафілакторый.

— Д-дальбог, нічога не разумею. Растлумачце...

— Калі нашы эканамісты падлічылі, то аказалася, што выпуск канструкцыі прынёс бы значныя страты — яна маральна ўстарэла і была б нікуды не варта. Такім чынам ваша марудлівасць дапамагла сэканоміць шмат сродкаў і дэфіцытных матэрыялаў. Дарэчы, вось што, Думкін. Калі вернецеся, загляніце да мяне. На мой погляд, вам трэба перадаць і распрацоўку „ХУК-20". Па ўсіх папярэдніх разліках агрэгат атрымліваецца значна горшым, чым існуючыя. А заданне, як вядома, мяняць нельга. Вы, спадзяюся, мяне разумееце, Думкін?

— А як жа. Разумею. Можаце на мяне спадзявацца.

**Мікола Абрамовіч**



Усё сваё нашу з сабою.

# НІЎКА



Без слоў.

## НА СЛУЖБЕ

Задрыпанец зайшоў у краму, дзе працавала яго дачка, і зрабіў куплю. Атрымаўшы рэшту, перапічыў і абурыўся:

— Што ж ты, дзіця, ужо і роднага бацьку ашукваеш?!

— Я на службе і для мяне ўсе кліенты аднолькавы, — спакойна адказала дачка.

## ПАГОДА НА ЗАЎТРА

Маці, пакідаючы пяцігадовага сына ў хаце, наказвае:

— Паслухаеш, якую пагоду прадказвае радыё на заўтра, і потым скажаш.

Пасля нейкай хвіліны сынок выбягае на падворак з крыкам:

— Мама, мама, радыё казала, што пройдуць кароткачасовыя дажджы без ападкаў!

## ПАСПРАБУЙ ДАГАДЗІ

— На вось білеты.

— І гэта трэба было траціцца?

— Ды яны мне дарма дасталіся.

— А мог бы і купіць! — адрэзала жонка.

## НЯЦЯЖКА

Да добра падпіўшага фатографа падыходзіць турыст:

— Я хацеў бы зрабіць здымак.

— Гэта няцяжка! Станьце, калі ласка, паўкругам.

З чаго смяюцца суседзі



Узяў слова, а забраў час.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Мадам, што вы хацелі б прад'явіць для тамажаннага агляду?

— Мне няма чаго прад'яўляць.

— Значыць, гэты футровы хвост, што выстае ў вас з-пад паліто, ваш уласны?

*

Настаўнік: — Калі б вучні, якія сядзяць на задніх лаўках, узялі сабе таксама ціха, як тыя, што чытаюць коміксы на сярэдніх, то вучні, якія сядзяць у першых радах, маглі б спаць спакойна!..

*

Два дробныя прадпрыемцы гутараць аб цяжкіх часах.

— Я вымушаны быў напалову скараціць свой персанал.

— Я таксама.

— Дык у цябе ж была толькі адна супрацоўніца, фракен Юхансон!

— Правільна! Але пяцідзесяцігадовую фракен Юхансон замяніла дваццаціпяцігадовая фракен Андэрсан!

## ПРЫЧЫНА ДА РАЗВОДУ

— Ну, як — з Марынаю лады?

— Маўчы, набраўся з ёй бяды.

Ідзе размова аб разводзе: — Яна ж па рэстаранах ходзіць.

— Марына, ды і ў рэстараны?!

Ты звар'яцелы або п'яны?!

Што ў рэстаранах ёй рабіць?

— Мяне шукае, каб пабіць.

**Міхась Скрыпка**

З „Весніка Задрыпоніі"

## У СВЕЦЕ ДЫЗАЙНА

Дасканалым афарміцелем зарэкамендаваў сябе ў задрыптрэсце малады дызайнер Мікалай Сваяцкі. У кароткія тэрміны яму ўдалося афарміць на працу ў трэст двух братоў, сястру і швагра.

## МАЛЕНЬКАЯ ХІТРАСЦЬ

Чым пазней прыйдзеш на працу, тым пазней атрымаеш вымову за спазненне!



— Тата, канарэйкі няма ў клетцы!

— Ага, цяпер я разумею, чаму кошка спявае.



— Жорж таксама хоча сказаць табе пару слоў, мамуля.



— Я прынесла табе пасведчанне аб разводзе. Цяпер ты свабодны чалавек!

# Курʼёзы

## ЭКСПАНАТ

Непадалёку ад Манчэстара на забалоцці капаў чалавек рыдлёўкай торф і выпадкова адкапаў... чалавечую галаву. Заявіў, як і належала, у паліцыю. Паліцыя сфатаграфавала галаву, якая, дарэчы, надрэнна захавалася (валасы былі свежыя, нібы ўчора памытыя) і дала здымкі ў друк: хто апазнае свайго нябожчыка-родзіча? Але родзічы не знаходзіліся, а мёртвая галава невядомага тым часам папала да экспертаў Аксфардскага універсітэта, і тыя аўтарытэтна заявілі: родзічы не апазналі нябожчыка па той простай прычыне, што самі памерлі каля 2000 з гакам гадоў назад. Далейшыя раскопкі на балоце далі магчымасць адшукаць і цела нябожчыка, якое таксама ж захавалася даволі надрэнна: торф аказаўся надзейным сродкам тысячагадовага кансервавання. Па руках невядомага можна было нават меркаваць аб яго арыстакратычным паходжанні, бо на іх не было слядоў працоўных мазалёў і пацёртасцей. А што ён быў сапраўды забіты (задушаны), пра гэта сведчыла вяроўка, якая знаходзілася ў трупа на плячы. Нябожчыку далі пасмяротнае імя Пітэр Марч, каб адрозніваць яго ад іншых падобных экспанатаў старажытнасці, і змясцілі ў спецыяльны халадзільнік у музеі рэдкіх выдатных людзей гісторыі, дзе яго будуць вывучаць мікрабіёлагі, радыёлагі, батанікі і іншыя прадстаўнікі навукі.

Мяне, нам!

Час працуе толькі на тых, хто працуе на яго.